



# Рэгіянальная газета. Rh.by



НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

12+

9 сакавіка 2018 года №10 (1193)


# Мілыя жанчыны, віншуем вас з 8 Сакавіка!

## У конкурсе “Раніца закаханых” перамагла студэнтка з Маладзечна

**Усяго ўдзельнічалі чатыры фотаздымкі – Валянціны Трухновай, Ігара Някрасава, Марыі Вараховай і Таццяны Лапцік.**

Фота з Таццянай абралі 69% удзельнікаў галасавання. Дзяўчына атрымае ў падарунак набор з керамічнай джэзвы і двух кубачкаў для духмянай кавы.

Таццяне 20 год, яна вучыцца на другім курсе медуніверсітэта ў Мінску на стаматолага.

– Раней іграла на гітары, спрабавала з бісерам працаваць, – расказвае Таня. – Але цяпер шмат вучобы, і на штосьці, акрамя яе, часу асабліва не хапае.

На фота яна са сваім маладым чалавекам **Уладам**. А здымак зрабіў фатограф **Ілля Капытаў**.

Таццяна з цяплом прыгадвае школу, маладзечанскую гімназію №7, і педагогаў **Таццяну Раткевіч**, **Ларысу Лазоўскую**, **Таццяну Сушынскую**.

Паўдзельнічаць у нашым конкурсе “Раніца закаханых” Тані прапанавала мама **Марына**, якая працуе апературам кацельні.

**Аддзел інфармацыі.**


**Змяненні ў раскладзе цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін** старонка 3

**Дзе ў Маладзечне зробяць капрамонт** старонка 2

**Чаму трэба паказваць фота смелых жанчын і мужчын, якія плачуць** старонка 5

## У Івянцы расказалі “Аб правах інвалідаў”

ВАЛОЖЫН

**Напрыканцы лютага ў Івянцы адбылася выязная кансультацыя па праекце “Распаўсюджванне ідэй Канвенцыі аб правах інвалідаў”.**

Сваім досведам у працы і пра аддзяленне дзённага знаходжання інвалідаў, пра місію аддзялення, яго паслугах, праектах, якія рэалізоўваюцца там, расказала **Ларыса Шчарбачэвіч**, кіраўнік аддзялення і старшыня Валожынскай пярвічнай арганізацыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам.

Затым з інфармацыяй па пытаннях аказання сацыяльных паслуг дзяржаўнымі ўстановамі для людзей з інваліднасцю выступіла спецыяліст аддзялення пярвічнага прыёму інфармацыі і прагназавання з Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Вольга Папрукайла**.

З інфармацыяй аб тым, дзе і на якіх умовах можна атрымаць псіхалагічную дапамогу асобам з інваліднасцю, а таксама сем’ям, якія маюць дзяцей-інвалідаў і маладых людзей з інваліднасцю, распавяла псіхолаг тэрытарыяльнага цэнтра **Алена Жданюк**. Таксама Алена паказала мультымедыйную матывацыйную прэзентацыю, якая распавядае пра жыццё і дзейнасць вядомых ва ўсім свеце людзей, якія маюць тую ці іншую інваліднасць, а таксама аб іх поспехах і дасягненнях.

Падчас выязной кансультацыі ў яе ўдзельнікаў была магчымасць атрымаць інфармацыю пра Канвенцыю “Аб правах інвалідаў”.

Канвенцыя выклікала сярод удзельнікаў вялікую цікавасць, яны выказалі жаданне набыць сам дакумент у папяровым варыянце.

Удзельнікі маглі азнаёміцца з асноўнымі відамі паслуг, якія дзяржаўныя ўстановы аказваюць, у тым ліку і людзям з інваліднасцю, а таксама іх сем’ям. Асаблівую цікавасць ва ўдзельнікаў выклікала інфармацыя аб магчымасці атрымання матэрыяльнай дапамогі, калі неабходна купіць дарагія лекі.

**Расказалі на сустрэчы і пра працу аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў, аб відах паслуг, якія яно аказвае, аб праектах, якія рэалізуе.**

Акрамя таго, удзельнікам паведамілі, што ёсць ідэя арганізаваць выязныя сустрэчы на тэрыторыі Івянца з дарослымі інвалідамі прыкладна разы два на месяц.

Акрамя гэтага, удзельнікі змаглі пазнаёміцца адзін з адным, наладзіць прыяцельскія і сяброўскія адносіны, даведацца аб працы грамадскіх аб’яднанняў,якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на тэрыторыі Валожынскага раёна і займаюцца праблемамі людзей з інваліднасцю.

Таксама ўдзельнікі маглі натхніцца станоўчымі прыкладамі людзей, якія, нягледзячы на сваю інваліднасць і часта адсутнасць спрыяльных умоў, змаглі шмат дамагчыся ў жыцці, стаць вядомымі спартсменамі, мастакамі, матывацыйнымі спікерамі, музыкамі, лётчыкамі.

Аляксей ШЧАРБАЧЭВІЧ,
Валожын.

## Абралі старшыню Вілейскага раённага Савета дэпутатаў

ВІЛЕЙКА

**1 сакавіка падчас першай сесіі 28 склікання абралі старшыню Вілейскага райсавета дэпутатаў.**

У выніку тайнага галасавання ёй стала **Алена Чабатар** – дэпутат па Лясной выбарчай акрузе, якая да гэтага працавала начальнікам Вілейскага раённага вузла паштовай сувязі.

Намеснікамі старшыні сталі **Генадзь Касцевіч** – дэпутат па Бубнаўскай выбарчай акрузе №23, і **Таццяна Цітуленка** – дэпутат па Талстоўскай выбарчай акрузе №9.

Нагадаем, што да сакавіка 2017 года старшынёй райсавета была **Наталля Радзевіч**. На 27 сесіі 21 сакавіка 2017 года яна аб’явіла, што сыходзіць у адстаўку.

Да абрання новага старшыні абавязкі выконвала начальнік службы занятасці Вілейскага райвыканкама Таццяна Цітуленка.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Наталлі ТУР.

Пра тое, што пабудуюць у Маладзечне ў 2018 годзе, дакладна стане вядома на гэтым тыдні, паведамілі ў аддзеле архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама.

# Адрамантуюць дахі, паставяць новыя ліфты

### У якіх жылых дамах Маладзечна правядуць капітальны рамонт

**Якія дамы плануюць адрамантаваць у 2018 годзе ў Маладзечне?**

На сайце Маладзечанскага УП “Камунальнік” апублікавалі спіс будынкаў, якія сёлета адрамантуюць і добраўпарадкуюць.

**Якія планы ў раёне**

У Радашкавічах плануюць зрабіць капітальны рамонт у жылым доме па Віленскай, 15. У Чысці адрамантуюць асобныя канструктыўныя элементы ў дамах на Паркавай, 12-а і 12-б. На Зялёнай, 10 адрамантуюць дах.

У Насілаве правядуць рамонт дамоў №№4 і 10-а па вуліцы Гастэлы.

Для шэрагу дамоў у горадзе, а таксама ў Радашкавічах, Пятроўшчыне і Чысці зробяць праектна-каштарысную дакументацыю.

Падрабязны план па будаўніцтве аб’ектаў інжынерна-транспартнай інфраструктуры на Маладзечаншчыне з’явіцца на гэтым тыдні, распавялі ў аддзеле архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

| Адрас будынка | Што плануюць зрабіць |
|---|---|
| Маладзёжная, 25-а | Капітальны рамонт даху, распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі і будаўніча-мантажныя работы |
| Крынічная, 9 | |
| Скарыны, 10-а | Капітальны рамонт асобных канструктыўных элементаў, будаўніча-мантажныя работы |
| Маўчанскага, 22 | |
| Драздовіча, 3 | |
| Будаўнікоў, 13-в | |
| Скарыны, 57 | Умацаванне, ліквідацыя прамярзання тарцовых сцен, будаўніча-мантажныя работы |
| Скарыны, 6 | Капітальны рамонт асобных канструктыўных элементаў, будаўніча-мантажныя работы, распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі |
| Скарыны 2 | |
| Віленская, 31 | |
| Ясінскага, 32 | |
| Міру, 42 | Капітальны рамонт даху, будаўніча-мантажныя работы |
| Скарыны, 16 | |
| Вялікі Гасцінец, 74-в | |
| Скарыны, 21 | Капітальны рамонт асобных канструктыўных элементаў, замена ліфта і капітальны рамонт даху, будаўніча-мантажныя работы |
| Вялікі Гасцінец, 139 | |

НАВІНЫ

## Астравецкі гурт стаў лепшым у абласным музычным фестывалі

АСТРАВЕЦ

Астравецкі кавер-гурт “Вегас бэнд” стаў уладальнікам Гран-пры на абласным фестывалі песні “Сэрца зямлі маёй”.

У гэтым годзе Астравецкі раён на абласным конкурсе прадставілі два ўдзельнікі: **Анастасія Козар** і кавер-гурт “Вегас бэнд”, якія выступалі ў розных намінацыях. Анастасія выканала лірычную песню, але прызавога месца не заняла.

А “Вегас” са сваім салістам **Русланам Юргелянцам** сталі уладальнікамі Гран-пры. Дадому яны вярнуліся з Дыпломам пераможцы, статуэткай і прызам.

## У Вілейцы адкрыюць выставу Эдуарда Мацюшонка



ВІЛЕЙКА

Сваёй чарговай выставе мастак даў назву “Дома”. Яе адкрыюць 10 сакавіка ў 15:00 у выставачнай зале Нікадзіма Сілівановіча.

На выставе прадставяць жывапісныя працы мастака.

Аддзел інфармацыі.

## Выхаванцы школы мастацтваў перамаглі ў міжнародным конкурсе

СМАРГОНЬ

Міжнародны конкурс-фестываль мастацтваў “Новае пакаленне 2018” прынёс узорнаму тэатру эстраднай песні “Кампліment” школы мастацтваў імя Агінскага дыплом лаўрэата І ступені.

Кіраўніка калектыву **Любоў Малышаву** ўзнагародзілі дыпломам за падрыхтоўку пераможцы міжнароднага конкурсу.

Фартэпіянны дуэт Любові Малышавай і яе вучня **Вячаслава Грачышкіна** таксама атрымаў дыплом лаўрэата І ступені. Найвышэйшую ўзнагароду конкурсу, Гран-пры, атрымаў **Даніла Казакевіч**.

Паводле сайта Смаргонскага райвыканкама.

## У нацыянальны парк “Нарачанскі” прывезлі 45 аленяў

МЯДЗЕЛ

На тэрыторыі парку “Нарачанскі”, у вальеры, што размешчаны ў лесе каля вёскі Радупля, прывезлі 45 аленяў.

Гэта трэці завоз. Папярэднія былі ў 2014 і 2016 гадах. Цяпер тут жыве больш за 200 аленяў і восем ланяў. У бліжэйшым будучым некаторых аленяў выпусцяць з вальера ў “свабодную” папуляцыю. Ланяў пакуль выпускаць не плануюць. Маленькі статак з сямі самак і аднаго самца набылі для вальернага ўтрымання.

Паводле сайта парку “Нарачанскі”.

# Змяненні ў курсіраванне цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін



## Паважаныя пасажыры!

**ад 3 сакавіка назначаецца**

цягнік рэгіянальных ліній бізнес-класа:
№749/750

## Мінск – Полацк – Мінск штодзённа

(акрамя 26, 27, 28/03; 09,10,11, 23, 24, 25/04; 03/05; 17, 23, 26, 29/06)

### №749/750 Мінск – Полацк

адпраўленнем ад **ст. Мінск у** ....................................**06:30**
прыбыццём на **ст. Маладзечна ў** ..............................**07:35**
адпраўленнем ад **ст. Маладзечна ў** ..........................**08:04**
прыбыццём на **ст. Полацк у** ......................................**10:36**

### №750/749 Полацк – Мінск

адпраўленнем ад **ст. Полацк у** ..................................**15:51**
прыбыццём на **ст. Маладзечна ў** ..............................**18:26**
адпраўленнем ад **ст. Маладзечна ў**............................**19:05**
прыбыццём на **ст. Мінск у** ..........................................**20:10**

цягнік робіць прыпынкі па станцыях:
**Вілейка, Параф'янаў, Крулеўшчына, Падсвілле.**

Падрабязную інфармацыю
можна атрымаць у даведачным бюро
вакзала ці па тэлефонах: (8-0176) **74-24-23, 105**

Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі
станцыя Маладзечна
УНП 600199541

# Чаму цяпер абавязкова кіпяціць ваду


Фота Medvoice.ru

**Ранняй вясной трэба ці гатаваць ваду, ці купляць гатаваную.**

**Сёлета даволі шмат снегу, і паводкавыя воды могуць падтопліваць шахтавыя калодзежы. Чакаецца значны сезонны пад'ём грунтавых вод.**

Пры іх пад'ёме ўзнікае небяспека мікробнага забруджвання пітной вады ў шахтавых калодзежах, падтопліваюцца аглядавыя водаправодныя калодзежы цэнтралізаваных сістэм водазабеспячэння.

У лабараторыі Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праманіторылі якасць вады, што выкарыстоўваюць для пітнога водазабеспячэння. У асобных пробах знайшлі перавышэнні гігіенічных нарматываў па мікрабіялагічных паказчыках. Даследаваныя пробы водаправоднай вады бяспечныя ў эпідэмічных адносінах.

У вясенні перыяд калодзежную ваду трэба абавязкова кіпяціць. А калі дазваляюць сродкі, лепш купляць бутыляваную ваду гарантаванай якасці.

Пасля заканчэння паводкі і зніжэння ўзроўню грунтавых вод гаспадарам трэба штодня чысціць і праводзіць дэзінфекцыю шахтавых калодзежаў.

Для дэзінфекцыі дастаткова трох-чатырох таблетак "Хлормікс", "Акватабс". Іх колькасць залежыць ад аб'ёму вады ў калодзежы. Разлічвайце адну таблетку на трубу ці на тысячу літраў.

Такія работы па дагаворы можа правесці водаканал.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў Маладзечанскага ЦГЭ.**

## У якіх грыбах летась знаходзілі радыяцыю

За мінулы год спецыялісты цэнтра абследавалі 192 аб'екты з кантролем магутнасці дозы гама-выпраменьвання.

Правяралі аб'екты пры адводзе ўчасткаў пад будаўніцтва, пры здачы аб'ектаў, рэканструкцыі ці капітальным рамонце. Гама-фон на даследаваных аб'ектах не перавышаў натуральны фон для адкрытай мясцовасці.

На ўтрыманне радыенукліду цэзію-137 даследавалі 170 проб вытворчага сектара – прадукты, лекі, ваду з цэнтралізаваных крыніц водазабеспячэння. Усе пробы не перавышалі норму.

З асабістых гаспадарак даследавалі 100 проб. З іх пяць проб грыбоў апынуліся забруджанымі радыенуклідамі. Перавышэнне дапушчальных узроўняў цэзію ў тры разы знайшлі ў курачках з Чарнонава Маладзечанскага раёна. Перавышэнне ў 11,3 раза знайшлі ў сушаных лісічках з Налібоцкай пушчы Валожынскага раёна. У сем разоў – у сушаных лісічках з Заскавічаў, у 2,2 раза – у свежых курачках з Турэц-Баяраў.

Штогод праводзяць маніторынг тэрыторый населеных пунктаў, якія падлягаюць радыяцыйнаму кантролю – такіх сем вёсак хоўхлаўскай зоны. Уся даследаваная прадукцыя з прыватных гаспадарак – садавіна, гароднiна, малако – не перавышала дапушчальныя ўзроўні.

Пры нарыхтоўцы і продажы дзікарослай прадукцыі і ад прадпрыемстваў, і ад прыватных асоб перавышэння дапушчальных узроўняў не было.

Радыяцыйная абстаноўка па Маладзечне і раёне застаецца стабільнай, выпадкаў радыяцыйных аварый не ўстаноўлена.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага ЦГЭ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.03 | 6.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9556 | **1,9714** |
| Еўра | 2,3897 | **2,4241** |
| Злоты, 10 | 5,7177 | **5,7968** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4693 | **3,4524** |
| Грыўня, 100 | 7,2929 | **7,4449** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **28.02** | **6.03** |
| Еўра | 2.3800/2.4110 | **2.4180/2.4290** |
| Долар ЗША | 1.9480/1.9570 | **1.9660/1.9760** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.02 | 6.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | 16,95 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | 2,95 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | 6,85 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | 4,30 |
| Селядзец, 1 кг | 3,90 | 3,30 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | 14,80 |
| Карп "Элітны" | 4,50 | 4,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | 1,50 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | 1,50 |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | 1,60 |
| Агуркі, 1 кг | 5,20 | 4,80 |
| Баклажаны, 1 кг | 6,00 | - |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | 0,60 |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | 0,60 |
| Капуста, 1 кг | 0,48 | 0,65 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 0,65 | 0,69 |
| Памідоры, 1 кг | 2,80 | 3,50 |
| Перац, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | 0,69 |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | 2,95 |
| Бананы, 1 кг | 3,40 | 3,50 |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | 6,90 |
| Гранаты, 1 кг | 3,80 | 4,30 |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,95 | 1,90 |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | 4,50 |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | 3,70 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,39 | 3,50 |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | 3,50 |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,85 | 2,00 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | 1,80 |
| Масла, 1 кг | - | 14,00 |
| Мёд, 0,5 л | - | - |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | - | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | 3,00 |

## Шакуючая гісторыя ў Смаргоні: муж выразаў жонцы на лбе "б***", а пасля забіў сябе

**Жахлівая гісторыя здарылася ў Смаргоні раніцай 28 лютага.**

Харэограф мясцовага дзіцячага садка ішла на працу, калі з суседняга дома выбегла яе калега ў залітай крывёй начной кашулі і басанож.

Выклікалі "хуткую", міліцыю. Жанчыну – 58-гадовую выхавальніцу аднаго з дзіцячых садкоў – адвезлі ў бальніцу.

Яе муж (пара жыла разам, але нібыта была ў разводзе) закрыўся дома. Трапіць унутр міліцыянеры не змаглі. Калі зламалі дзверы, мужчыну знайшлі ў ваннай. Па словах мясцовых жыхароў, ён скончыў жыццё самагубствам, уткнуўшы нож сабе ў грудзі.

Дакладныя абставіны невядомыя. Мясцовая міліцыя адмаўляецца ад каментароў. Следчы камітэт таксама пакуль не выказваўся па тэме.

Інфармацыю не каментуюць ані следчыя, ані пракуратура.

Але намеснік пракурора Смаргонскага раёна **Сяргей Кавальчук** агучыў новыя падрабязнасці здарэння:

– Паводле папярэдняй версіі, паміж мужам і жонкай адбылася сварка на глебе рэўнасці. У кватэры захоўвалі электраліт – вадкасць на аснове сернай кіслаты для запраўкі акумулятараў. Следства папярэдне высветліла, што мужчына збіў былую жонку, потым плюхнуў электралітам ёй у твар, затым нажом парэзаў ёй сцягно.

У той жа кватэры жыў і дарослы сын пары. Усё здарылася, калі ён ужо сышоў на працу.

Таксама кажуць, што муж пацярпелай моцна хварэў. Яму было пад 60 гадоў, ён моцна пакутаваў на цукроўку і, магчыма, захворванні, якія ўплывалі на яго адэкватнасць. Мужчына меў групу інваліднасці.

Мясцовыя жыхары расказваюць, што ў 8:30 раніцы 28 лютага мужчына на глебе рэўнасці кінуўся на жонку. Ён узяў нож і выразаў у яе гарачым нажом на лбе нецэнзурнае слова "бл***". Пасля нібыта пачаў выразаць геніталіі. Жанчына ці то страціла прытомнасць, ці то прыкінулася памерлай і, калі муж выйшаў з пакоя, змагла ўцячы з дому.

Муж замкнуў усе дзверы і зарэзаў сябе.

Жанчына выжыла. Цяпер яна знаходзіцца ў бальніцы, у рэанімацыі.

Паводле "Нашай нівы".

## Ворагі палёў не каларадскія жукі, а квадрацыклы

МАЛАДЗЕЧНА

У ДАІ ўсё часцей звяртаюцца прадстаўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў з крыкам душы: кіроўцы квадрацыклаў ладзяць катанні на сельскагаспадарчых палях, яны колам сваіх квадрацыклаў псуюць пасевы!

ДАІ аператыўна рэагуе на такія сігналы і сістэматычна праводзіць рэйды з мэтай "знайсці і абясшкодзіць". Упор у такіх рэйдах робіцца на ўсталяванне фізічнага стану кіроўцаў квадрацыклаў, праверку дакументаў на транспартны сродак, таксама супрацоўнікі ДАІ тлумачаць, што квадрацыклам недапушчальна заязджаць на сельскагаспадарчыя ўгоддзі, псаваць насаджэнні.

Варта падкрэсліць, што квадрацыклы ў адпаведнасці са сваімі тэхнічнымі характарыстыкамі і асаблівасцямі канструкцыі не прызначаны для ўдзелу ў дарожным руху.

Кіроўцы іх могуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Частка 1 артыкула 10.8 АК Беларусі: знішчэнне або пашкоджанне пасеваў – цягне накладанне штрафу ў памеры ад пяці да пятнаццаці базавых велічынь.

Частка 3 артыкула 10.8 АК Беларусі: праезд па пасевах – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзвюх да пяці базавых велічынь.

Частка 5 артыкула 18.22 АК Беларусі (за рух па дарогах агульнага карыстання): парушэнне асобай, якая кіравала транспартным сродкам, іншых правілаў дарожнага руху – цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да пяці дзясятых базавай велічыні.

Частка 4 артыкула 18.36 АК Беларусі: уезд на аўтамабільную дарогу агульнага карыстання транспартнага сродку ва неўсталяваных ці неўладкаваных месцах – цягне накладанне штрафу ў памеры ад двух дзясятых да адной базавай велічыні.

Пры ўдзеле ў дарожным руху, калі гэта не забаронена Правіламі дарожнага руху, кіроўцы квадрацыклаў прыцягваюцца да адказнасці на агульных падставах.

Калі вы заўважылі, што кіроўцы квадрацыклаў шкодзяць вашы сельскагаспадарчыя ўгоддзі, можаце паведаміць пра гэта па тэлефоне **77-16-56.**

Інфармацыяй забяспечыў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

Наталля ТУР.

# Вясна ідзе: 14 аварый за выхадныя

МАЛАДЗЕЧНА

**Снежная вясна прынесла нязручнасці і кіроўцам, і дарожным службам, і супрацоўнікам ДАІ.**



У выхадныя працы хапіла і дарожным службам, і ДАІ.

Толькі за два дні, 3 і 4 сакавіка супрацоўнікі ДАІ выязджалі на месцы ДТЗ 14 разоў. А колькі было аварый, калі ўмяшальніцтва ДАІ не спатрэбілася?

На пытанне, ці надвор'е стала прычынай такой колькасці ДТЗ, інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош** адказаў:

– Не надвор'е, а няўважлівасць кіроўцаў.

Трэцяга сакавіка каля 16:50 на дарозе Мінск-Маладзечна рухаўся аўтамабіль "Фольксваген-Транспарцёр", за рулём якога знаходзіўся 57-гадовы кіроўца.

– Пры пад'ёме на горку аўтамабіль стала заносіць. І ён лёг на бачок. Мужчына не пацярпеў, але прыцягнуты да адказнасці па артыкуле 18.22 частка 5 за няправільна выбраную хуткасць руху.

У гэты ж дзень на вуліцы Гарадоцкай у Маладзечне здарылася яшчэ адно ДТЗ. 30-гадовы кіроўца пры павароце на вуліцу Віленскую прыціснуўся да ўзбочыны і не разлічыў, што пакрыццё дарогі слізкае. І ўехаў у агароджу.

У гэты ж час на вуліцы Савецкай у Маладзечне трактар, што чысціў дарогу ад снегу, не разлічыў адлегласць ад агароджы і ўрэзаўся ў плот маладзечанца.

Назаўтра, у нядзелю, ДТЗ працягнуліся. У адным з іх сустрэліся тры жыхары Вілейкі.

33-гадовы віляйчанін ехаў на машыне "Аўдзі-А6" па вуліцы Замкавай. Перад "ляжачым паліцэйскім" знізіў хуткасць і адчуў штуршок у заднюю частку машыны. У віляйчаніна ўехала... 31-гадовая віляйчанка і таксама на "Аўдзі-А6".

Пакуль кіроўцы дзвюх "Аўдзі" разбіраліся паміж сабой, у машыну віляйчанкі ўехаў 30-гадовы жыхар... Вілейкі. На аўтамашыне "Пежо-206".

Машыны пацярпелі не моцна. Кіроўца першай "Аўдзі" атрымае страхоўку ад кіроўцы "Аўдзі", а жанчына атрымае страхоўку ад вадзіцеля "Пежо-206".

### "Сітраэн" збіў васьмікласніцу, якая выбегла на дарогу

Яшчэ адна аварыя выхаднога дня адбылася ў нядзелю прыблізна ў 17:40 на пятым кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Самалі.

40-гадовы жыхар Маладзечна ехаў на сваім аўтамабілі "Сітраэн-С5" з боку вёскі Самалі ў накірунку Маладзечна. З яго слоў, хуткасць была каля 50 кіламетраў у гадзіну, дарога – заснежаная.

– Кіроўца растлумачыў, што падчас руху справа ў лесе ён бачыў дзве групы людзей. Калі апынуўся на адлегласці 10 метраў ад іх, то заўважыў, што спінай да дарогі стаіць дзяўчынка, якая раптам рэзка стала перабягаць яе, – тлумачыць Сяргей Бартош.

Каб пазбегнуць наезду, маладзечанец націснуў педаль тормазу і прыняў лявей. Але ён не справіўся з кіраваннем аўтамабіля і збіў 14-гадовую дзяўчынку левай пярэдняй часткай аўтамабіля. "Сітраэн" працягнула круціць на дарозе і занесла ў гурбу па правым баку праезнай часткі, дзе ён, нарэшце, спыніўся.

Бацька дзяўчынкі растлумачыў супрацоўнікам ДАІ, што разам з дачкой, жонкай і сябрамі ён прыехаў на прыроду адпачыць. Па незразумелай прычыне яго дачка, вучаніца 8 "А" класа гімназіі №10 Маладзечна, стала ўцякаць. Мужчына крычаў дзяўчынцы, каб яна спынілася, але тая раптоўна выбегла на дарогу.

Бацька пацярпелай пацвердзіў словы кіроўцы аб тым, што хуткасць аўтамабіля была невялікая. Ён таксама бачыў, як маладзечанец спрабаваў пазбегнуць наезду.

Да месца аварыі выклікалі супрацоўнікаў ДАІ. Дзяўчынка адчувала сябе нармальна, таму "хуткую" вырашылі не выклікаць. Аднак пазней на ўласным аўтамабілі адвезлі дачку ў бальніцу, дзе дактары сказалі, што ў дзяўчынкі закрыты пералом абедзвюх касцей левага перадплечча са зрушэннем.

Пацярпелую шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы. Па факце аварыі аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС праводзіць праверку. Справа перададзеная ў Следчы Камітэт.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Падчас вялікіх выхадных ДАІ праверыць кіроўцаў на цвярозасць

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзяржаўтаінспекцыя правядзе акцыю " Цвярозы кіроўца" ад 6 да 12 сакавіка.**

За два месяцы гэтага года на тэрыторыі Мінскай вобласці па віне нецвярозых кіроўцаў здзейснена сем дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх дзевяць чалавек траўмаваныя.

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна ад пачатку года зарэгістравана дзесяць дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх два чалавекі загінулі, дзевяць атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Па віне нецвярозых кіроўцаў здзейснена адно дарожна-транспартнае здарэнне.

Трэцяга студзеня каля 18 гадзін 22 хвілін у вёсцы Дубрава адбылося ДТЗ. Пешаход, якога збіў нецвярозы вадзіцель, памёр у машыне "хуткай дапамогі".

Ад пачатку года на тэрыторыі Маладзечанскага раёна затрымалі 46 нецвярозых кіроўцаў, двое з якіх паўторна на працягу года.

З мэтай умацавання транспартнай дысцыпліны, спынення фактаў кіравання транспартам у стане алкагольнага ап'янення, як адной з асноўных прычын ДТЗ з цяжкімі наступствамі, ДАІ Маладзечна і праводзіць абласную прафілактычную акцыю "Цвярозы кіроўца".

У рамках гэтай акцыі нарады дарожна-паставой службы ДАІ будуць несці службу побач з крамамі, кафэ, дыскатэкамі і сельскімі клубамі – каля месцаў, дзе гандлююць спіртнымі напоямі, асабліва вечарам і ноччу.

Калі вы сталі сведкам альбо відавочцам кіравання транспартам у стане алкагольнага ап'янення, альбо ёсць дакладная інфармацыя пра асоб, схільных да такіх дзеянняў, просьба паведаміць па тэлефонах **77-16-56** або **102**.

**Сяргей БАРТОШ, інспектар Маладзечанскай ДАІ.**

# Маю правы

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# “Не бойцеся паказваць смелых жанчын і мужчын, якія плачуць”

## У рэдакцыі “РГ” шведская журналістка правяла семінар па гендарнай няроўнасці

МАЛАДЗЕЧНА

**Як асвятляць навіны, не прыніжаючы правы жанчын, і якія гендарныя праблемы існуюць у грамадстве, распавяла эксперт шведскага медыяінстытута Fojo Жазэфіна Якабсан. У рэдакцыю “Рэгіянальнай газеты” яна завітала 2 сакавіка.**




Падчас сустрэчы з супрацоўнікамі рэдакцыі. Злева направа: журналістка Зоя Хруцкая, перакладчык Ілья Кузняцоў, эксперт шведскага медыяінстытута Fojo Жазэфіна Якабсан.

– Каб іншапланецянін прыляцеў сёння на зямлю і набыў газету, ён нічога б не зразумеў з таго, што адбываецца ў свеце, – пачала сваё выступленне Жазэфіна. – На старонках любой газеты мужчын больш, чым жанчын. Гэта прытым, што ў свеце іх пароўну.

Шведскі медыяінстытут Fojo пастаянна даследуе сітуацыю з гендарам у СМІ. Сумесна з Беларускай асацыяцыяй журналістаў і прэс-клубам такое даследаванне правялі і ў Беларусі.

Па словах Жазэфіны, некалькі апошніх гадоў па ўсім свеце – уздым фемінізму – ідэалогіі, накіраванай на дасягненне роўнасці правоў жанчыны ва ўсіх сферах жыцця. І ўсё ж, згодна з дадзенымі даследавання, мужчыны па-ранейшаму атрымліваюць больш высокія заробкі, чым жанчыны. Хоць, па афіцыйных дадзеных, заробкі аднолькавыя.

У беларускай журналістыцы жанчын працуе больш, чым мужчын. Чаму? На думку Жазэфіны і згодна з даследаваннямі, журналістыка не з’яўляецца прэстыжнай працай з высокім заробкам.

Пры гэтым у большасці выданняў жанчыны пішуць на так званыя “лёгкія” тэмы: адукацыя, культура, экалогія, сям’я. “Цяжкія” тэмы – спорт, палітыка, эканоміка – кіраўнікі часцей давяраюць калегам-мужчынам.

У СМІ жанчыну прадстаўляюць як жонку, маці, захавальніцу сям’і. Яна вельмі рэдка выступае ў якасці эксперта па нейкім пытанні. Па даследаваннях медыяінстытута Fojo, чатыры з пяці экспертаў – звычайна мужчыны.

У Швецыі, распавяла Жазэфіна, у мову журналістаў увялі нейтральны займеннік, які не паказвае канкрэтна на пол героя публікацыі. Гэта нешта паміж “ён” і “яна”.

У жанчыны па-ранейшаму менш магчымасцей займаць высокую пасаду. Бо формула “праца+сям’я” часта перашкаджае кар’ернаму росту. У адпачынак па доглядзе за дзіцем закон дазваляе ісці і бацьку, і бабулі. Аднак такія выпадкі адзінкавыя.

Гендарная дыскрымінацыя забароненая заканадаўча. Аднак жанчына, уладкоўваючыся на працу, часта можа пачуць пытанні працадаўцы пра тое, колькі ў яе дзяцей і ці плануе яна нараджаць яшчэ.

– Такія пытанні працадаўца не мае права задаваць жанчыне, – перакананая Жазэфіна. – Але жанчына чуе іх і ў Беларусі, і ў Швецыі.

Тое, што жанчына на роўных правах з мужчынамі павінная ўдзельнічаць у палітычным жыцці, перакананыя эксперты з ААН. Яны лічаць, што калі жанчын часцей далучаць да мірных перамоў, то ў свеце менш ваявалі б. Па словах Жазэфіны, у Швецыі аднолькавая колькасць мужчын і жанчын у палітыцы. Але ў СМІ ўсё роўна больш прадстаўленыя мужчыны. У Беларусі і Расіі жанчын у палітыцы куды менш. Вядома, менш і ў прэсе.

Ці абароненыя жанчыны ў Швецыі заканадаўча? Так. Ва ўсялякім разе, там жанчына не баіцца тэлефанаваць у міліцыю, калі яе збівае муж. Бо дзіця не паставяць у сацыяльна-небяспечнае становішча, як гэта робяць у Беларусі. Аднак частыя выпадкі, калі паліцыя не верыць жанчынам. Асабліва ў выпадках сэксуальнага гвалту. Напрыклад, у судзе жанчыне-ахвяры могуць задаваць пытанні: “ці былі вы п’яныя?”, “ці была на вас кароткая спадніца?”

– Не бойцеся паказваць смелых жанчын і мужчын, якія плачуць. Выкарыстоўвайце фотаздымкі мужчын падчас рэкламы кухоннага посуду, – пажадала журналістам Жазэфіна.

### А як з гендарам у “РГ”?

У “Рэгіянальнай газеце” працуе восем чалавек. Два з іх – мужчыны. Як бачым, фраза Жазэфіны пра тое, што ў журналістыцы больш жанчын, пацвярджаецца на прыкладзе нашай рэдакцыі.

За люты на старонках нашай газеты 90 разоў на фотаздымках сустрэліся мужчыны і 61 раз – жанчыны. Гераінямі буйных публікацый за гэты месяц жанчыны былі 16 разоў, мужчыны – 22.

**Даведка “РГ”.** Гендарная роўнасць – канцэпцыя, якая імкнецца да дасягнення мэты роўнасці ў правах паміж мужчынамі і жанчынамі.

Аксана ЯРАШОНАК.

### Крыху лічбаў у тэму паводле даследаванняў інстытута Fojo



**22%** жанчын-журналістак лічаць, што маюць добрыя магчымасці кар’ернага росту.



**60%** жанчын-журналістак прызнаюць, што працадаўца дапамагаў ім пасля таго, як яны выйшлі з дэкрэтнага адпачынку.



**25%** жаночых і 75% мужчынскіх фотаздымкаў выкарыстоўваюць на сваіх старонках беларускія СМІ.

**31%** на 69% складае гэты паказчык у шведскіх СМІ.




**153** месца ў свеце займаюць беларускія СМІ па свабодзе прэсы



**31** месца займаюць нашы СМІ ў свеце па гендарнай няроўнасці.




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by



# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕВК-14 (0,9 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Хітачы, пагрузчыка Амкадор, самасвала 20 т, трала 24 т. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. (8-029) 3713335, (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая (1,5) кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, 38,7 кв.м, з рамонтам. Т. (8-033) 3617975, (8-029) 1067438.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, навабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 1602392.*
- 2-пакаёвая кватэра ў раёне Зеніт г. Вілейкі. Т. (8-029) 5672139.*
- 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе. Т. (8-0176) 531545, (8-029) 5086693.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 6610717.
- Гараж у ГК № 12 г. Маладзечна па вул. Тургенева, 4000 руб. Т. (8-0176) 542832, (8-044) 4747714.

*Размясці сваю аб'яву не менш за* ***ТРЫ РАЗЫ****, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце* Rh.by

- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Дом новы ў Смаргоні. Гатоўнасць 80%. Т. (8-044) 7722658.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Валожынскім раёне, 30 км ад Маладзечна, 80 км ад Мінска. Т. (8-029) 5741650, (8-029) 3414153.*
- Дом у Смаргоні, Савецкая, 105. Т. (8-029) 7603728.

### ЗДАМ

- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*
- Пакой хлопцу ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*

# ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 60007731. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Запраўка лазерных картрыджаў. Палова дня. 11 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 31570.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Надпіс і фота на майку/кубак – 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 "НгС". ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т, (8-01592) 31570.*
- Рамонта-будаўнічыя, сантэхнічныя работы. Без пасярэднікаў. Прыватнае прадпрыемства «Шандала ВВ» УНП 690666037. Т.(8-029) 9452318.
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", "ВЕКО", "Норд" "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Цэгла (кірпіч) шамотная, вілейскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*
- Чыгунная ванна б/у. Т. (8-033) 6686776.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбасаджалка аднарадная да міні-трактара Т-25, Т-40. Т. (8-044) 5543365. Іосіф.*
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*









**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Лідераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Піяніна "Беларусь" у выдатным стане, недарага. Т. Велком (8-029) 6544991.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Рогі ласяа, аленя, шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.*

• Бронзавыя статуэткі "Буды". Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Куплю калекцыянер. Т. Велком (8-029) 6550007.*

• Бульбу ў насельніцтва. Т. (8-029) 8456305.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Фрэзерны станок па дрэве, можна няспраўны. Т. (8-029) 6931795.

**ПРАЦА**

**ПРАЦА**

• Цырульнік-універсал. Т. 98-029) 7098759.*

• Сядзелка для жанчыны з пражываннем. Т. (8-029) 7052670, (8-017) 2366032.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 2609392.*

• Масажыст шукае працу. Т. (8-029) 9756978.



# Якія змяненні напаткалі аграэкатурызм


Фота за gorodovt24.ru.

**Новы ўказ дае шырокі шэраг дадатковых паслуг.**

**Для паляпшэння ўмоў для развіцця аграэкатурызму і жыцця ў невялікіх населеных пунктах, а таксама сельскай інфраструктуры прыняты Указ "Аб развіцці аграэкатурызму".**

Дакумент замацоўвае права жыхароў сельскай мясцовасці займацца аграэкатурызмам на ўчастках, дадзеных для будаўніцтва і абслугоўвання дома без змянення мэтавага прызначэння зямлі. Раней аказваць паслугі ў сферы аграэкатурызму маглі толькі гаспадары ўчасткаў, прызначаных для ўласнай гаспадаркі.

Жылы дом для размяшчэння гасцей можа належаць як таму, хто займаецца аграэкатурызмам, так і членам яго сям’і. Акрамя гэтага, можна пабудаваць гасцявыя домікі, якія не трэба ўключаць у жыллёвы фонд.

Указ дазваляе працаваць у сферы аграэкатурызму і ў курортных зонах. Раней такая магчымасць была абмежавана.

Суб’ектам сферы дадзены шырокі шэраг дадатковых паслуг, што садзейнічаюць віду дзейнасці, у тым ліку праводзіць прэзентацыі, юбілеі, банкеты. Можна аказваць паслугі лазні, саўны і душавых, катання на жывёлах, акрамя дзікіх, і ў гужавым транспарце. Можна забяспечваць інвентаром для спорту і адпачынку і транспартнае абслугоўванне.

Паводле новага ўказа, закрыты пералік паслуг, якія асоба можа аказваць у межах аграэкатурызму. Гэта значыць, што ўсе іншыя паслугі, якія не пералічаныя ў дакуменце, не будуць падпадаць пад сферу аграэкатурызму.

Указ замацаваў абавязак для суб’ектаў аграэкатурызму – заходўваць дагаворы на аказанне паслуг паміж суб’ектам і турыстамі. Захоўваць трэба не менш за тры гады пасля праверкі падатковых органаў на прытрымліванне заканадаўства.

Захоўваецца парадак і тэрміны справаздачнасці па форме, усталяванай Міністэрствам па падатках і зборах. Суб’екты аграэкатурызму абавязаныя штогод да 10 студзеня года, наступнага за справаздачным, падаць падатковаму органу па месцы знаходжання агрэсядзібы інфармацыю аб заключэнні (незаключэнні, адсутнасці) дагавораў на аказанне паслуг. Іх трэба скласці па форме, устаноўленай пастановай Міністэрства па падатках і зборах ад 24 студзеня 2011 года №4.

Указ вызначае парадак дзеяння для суб’ектаў аграэкатурызму ў выпадку спынення дзейнасці па аказанні паслуг.

Гэтыя змяненні ўступілі ў сілу ад 12 студзеня гэтага года.

### Куды звяртацца па падрабязную інфармацыю

Па пытаннях дзейнасці па аказанні паслуг у сферы аграэкатурызму – у сельскія, пасялковыя камітэты, аддзелы адукацыі, спорту і турызму райвыканкамаў.

Па пытаннях выплаты збору за аказанне паслуг у сферы аграэкатурызму – у падатковы орган па месцы жыхарства ці па месцы размяшчэння сядзібы. Таксама можна звяртацца ў кантакт-цэнтр па тэлефоне **189**.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

## Дзённік мамы: урок чытання для Варвары – быццам перапынак

**Дадатковыя канікулы прыйшліся якраз на сярэдзіну лютага. Быў і вясковы адпачынак, і шпацыр у зімовым лесе, і катанні з горкі.**

Адна бяда – Варвара не змагла павіншаваць 14 лютага аднакласнікаў з Днём закаханых. Але сяброўкі і настаўніцы атрымалі свае “валянцінкі” крыху пазней.

Пасля канікулаў Варвара навучылася пісаць новыя літары “ф”, “х”, “я” і “ю”. “В” засвоілі яшчэ раней. Таму цяпер яна ўмее пісаць сваю літару і літару старэйшай сястры Юлі.

– Урок чытання для мяне – як быццам перапынак, – прызнаецца Варвара.

Тэксты з буквара ёй даюцца лёгка і чытаюцца хутка. Перад сном з задавальненнем чытае сама сабе кніжкі, якія рэгулярна бяром у “Вераску”. Апошняе захапленне – дзіцячыя дэтэктывы з яркімі малюнкамі.

**Па-за канкурэнцыяй “Прыгоды мышкі Пік-Пік” Людмілы Рублеўскай. Апавяданні з гэтай кніжкі перачытваем некалькі разоў, але кожны раз яна па-ранейшаму не траціць.**

Па даручэнні настаўніцы вядзём чытацкі дзённік, куды запісваем назву кнігі, аўтара і колькасць прачытаных старонак. Сёння там ужо дзесяць кніжак. На падыходзе – адзінаццатая.

Па матэматыцы да нядаўняга часу рашалі прыклады толькі ў межах дзесяці. Цяпер можам крыху больш.

На пэўны час прыпыніўся басейн. Прычынай таму – каранцін у класе па “вятранцы”. Варвару гэты факт засмуціў. Затое маме падчас абеду не трэба лётаць у школу, каб дапамагчы нацягнуць гумовую шапачку, а пасля басейна – пасушыць валасы. Бо ідэальна нацягваць шапачку мы пакуль так і не навучыліся.

Апошнія некалькі тыдняў праходзілі пад знакам “свята мамы”. Першакласнікі вучылі вершы, песні, зрэзалі цэлую кучу кардону і каляровай паперы, каб зрабіць паштоўкі хэнд мэйд для мам і бабуль.

Паколькі клас у нас харэаграфічны, не абышлося без танцаў. Дзяўчынкі ў блікучых спаднічках з хвосцікамі паказвалі танец чорных котак, хлопчыкі ў канцэртных камбінезонах – танец робатаў.

23 лютага дзяўчынкі віншавалі аднакласнікаў са святам. Падарылі алоўкі, альбомы для малявання і шакаладку. Цяпер чакаюць падарункаў у адказ.

Амаль кожны дзень па вечарах пішам па тры сказы з буквара ў сшытак. І мама пакуль вельмі рада, што можа дапамагчы дзіцяці зрабіць урокі. Бо каб дапамагчы дачцэ-шасцікласніцы, маіх сціпленькіх ведаў па многіх прадметах ужо даўно не хапае. Таму мусіць наша Юля разлічваць выключна на сябе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вось так мы ўжо ўмеем пісаць.















Удзельнікі сустрэчы не толькі пазнаёміліся адзін з адным, але і вывучылі некалькі слоў на чужой для сябе мове.

# Калі збіраюцца эстонцы, беларусы, балгары...

## атрымоўваецца сяброўства

МАЛАДЗЕЧНА

**Не паспелі маладыя выкладчыкі і навучэнцы музычнага каледжа імя Агінскага перайсці на беларускі час пасля міжнароднага праекта ў Люксембургу, пра які пісала “Рэгіянальная газета”, як пачалі рыхтавацца да сустрэчы новых замежных гасцей.**

Ад 10 да 17 лютага Маладзечанскі дзяржаўны музычны каледж імя Агінскага прымаў у сябе ў гасцях прадстаўнікоў шасці краін свету: Азербайджана, Балгарыі, Беларусі, Люксембурга, Расіі і Эстоніі. Гэта была пятая сустрэча на базе каледжа, арганізаваная некамерцыйнай арганізацыяй Together Luxembourg з дапамогай праграмы Еўрапейскай камісіі пад назвай Erasmus +.

Тэмы, якія закрануў праект, – самыя актуальныя і балючыя і тычыліся глабальных змен у свеце. Напрыклад, чорная будучыня інтэрнэта, гендарная няроўнасць, міжнароднае супрацоўніцтва, кліматычныя змены і захаванне экасістэмы.

### З карабля на баль

Кожны дзень быў насычаны імпрэзамі. А раз Маладзечна вядомае сваімі культурнымі і музычнымі праектамі, то ўдзельнікаў чакала шмат канцэртаў. Ужо ў першы дзень госці наведалі цырымонію ўзнагароджання пераможцаў конкурсу “Жанчына года Міншчыны-2017” у Палацы культуры, дзе адбыўся цудоўны канцэрт заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь сімфанічнага аркестра Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі**.

Увечары гэтага ж дня ўжо традыцыйным стала правядзенне “Інтэрнацыянальнай вячэры”. Кожная краіна рыхтавала свае стравы, напоі, сувеніры і прэзентавала ўсім прысутным. Беларусы частавалі гасцей паляндвіцай, кілбасамі, сальцам з агурочкам, беларускім хлебам і кісялём і, канешне, дамашнімі прысмакамі.

За тыдзень праекта ўдзельнікі наведалі мастацкую галерэю “Універсітэт культуры” і Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Мінску. Менавіта там былі абмеркаваныя праблемы і перспектывы міжнароднага супрацоўніцтва маладога пакалення з розных краін свету.

### “Рэха Чарнобыля” як рэальна існуючая праблема Беларусі

Кожны вечар прадстаўнікі рыхтавалі прэзентацыю свайго краю. Асноўная ўмова: паказ рэальна існуючых праблем у сучасным грамадстве. Так для еўрапейскіх краін уздымалася тэма міграцыі і эміграцыі моладзі ў больш развітыя краіны Еўропы, праблема пошуку працы і невялікія заробкі. Для беларусаў актуальнай тэмай застаецца “Рэха Чарнобыля” і яго наступствы адносна здароўя насельніцтва.

Другая частка прэзентацыі ўключала ў сябе дэгустацыю традыцыйных страў, вывучэнне песень і танцаў розных народаў. Уразіла азербайджанская група сваімі танцамі і спевамі ў жывым выкананні. Беларусы на свой вечар запрасілі ўдзельнікаў этнаграфічнага клуба “Кола”, які па-майстэрску прадэманстраваў і навучыў гасцей беларускім танцам і гульням (полька-бабачка, падыспань, “Грачанікі”, “Удавец”).

Выніковымі працамі праекта сталі відэа- і фотапрэзентацыі, дзе гучалі тэмы сяброўства, любові, заклікі да захавання экасістэмы.

Безумоўна, такія сустрэчы адыгрываюць вялікую ролю ў жыцці сучаснай моладзі, таму што, нягледзячы на выкарыстанне нефармальных метадаў адукацыі (семінары, гульні, трэнінгі і г.д.), звышзадача такіх праектаў – даць магчымасць падарожнічаць, знаходзіць новых сяброў, пашыраць свае веды ў розных сферах жыцця, а таксама выходзіць са сваёй зоны камфорту і дзейнічаць. Бо толькі актыўныя і аб'яднаныя людзі могуць змяніць да лепшага сваё жыццё.

**Алеся КАРОЛІК,**
**педагог-арганізатар музычнага каледжа імя Агінскага**
**Фота Руслана АПАНОВІЧА.**



На выставе-кірмашы кожны мог адчуць сябе крыху Францыскам Скарынам і надрукаваць аркуш з кнігі. Праўда, абсталяванне было цяжкаватае, таму дзецям дапамагалі бацькі.

# А вы набылі б кнігу за 120 рублёў?

## Што зацікавіла маладзечанцаў на Міжнароднай кніжнай выставе

МАЛАДЗЕЧНА

**Самую дарагую кнігу на сёлетняй кніжнай выставе прапаноўвалі за 120 рублёў. Самую танную аддавалі за 50 капеек.**

Што ж яшчэ здзівіла і ўразіла сям'ю з Маладзечна на Міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы ў Мінску?

Выставу мы чакалі ад канца студзеня. Першапачаткова яна, як заўсёды, планавалася на сярэдзіну лютага. Але па нейкіх прычынах маштабнае кніжнае свята адклалі на сакавік.

Наша сям'я любіць кнігі.

Любіць так, што мароз, завея і нядзельны пад'ём у 6:30 не стаў перашкодай для таго, каб патрапіць на запаветную выставу.

Сёлета на штогадовым свяце свае кніжкі прадставілі 32 краіны. Ганаровым госцем была Сербія. Але мы так і не змаглі пабачыць сербскі стэнд, бо былі ў самы апошні дзень выставы. Госці з Сербіі ўжо з'ехалі.

Дзеці, як заўсёды, пабеглі да пляцоўкі, дзе кніжкі прадстаўляў нямецкі інстытут Гётэ.

За два гады мы ўжо прывыклі да таго, што тут частуюць сапраўднымі нямецкімі цукеркамі-мішкамі, праводзяць розныя майстар-класы, даваляюць пагартаць незвычайныя дзіцячыя кнігі.

У адных – як жывыя плаваюць рыбы і бегаюць пінгвіны, у іншых – можна націснуць гусаку на мяккі жывот – і той загагоча.

Уразіла таксама кніжка пра планеты. Разгортваеш яе – і перад вачыма паўстаюць планеты сонечнай сістэмы ў 3D.

Выдавецтва "Пачатковая школа" прываблівала дзятву сваімі "фішкамі". Можна было паваляцца на вялізных мяккіх крэслах-мяшках, паўдзельнічаць у віктарынах, паглядзець дзіцячы спектакль, паабдымацца з вялікай роставай лялькай – мяккім мядзведзем Топам. Прапаноўвалі таксама пабыць у ролі юных фізікаў: дзеці рабілі доследы з магнітамі, падковамі, лямпачкамі. Нам найбольш спадабалася завязваць шнуркі на чаравіку… абцугамі.

Госці з Амерыкі здзіўлялі сучаснымі тэхналогіямі. Прапаноўвалі камп'ютарныя віктарыны і віртуальнае падарожжа па лонданскіх музеях. Надзеўшы спецыяльную прыладу на вочы, мае дзяўчаты з захапленнем блукалі па музейных залах. А пасля ім яшчэ і флікеры падарылі. Апошні факт вельмі здзівіў старэйшую дачку:

**– Нічога сабе! Пагулялі бясплатна, а за гэта яшчэ і падарункі далі. Дзе-небудзь у парку адпачынку мы б мусілі грошы плаціць, – зусім падаросламу заўважыла Юля.**

Там жа госці з Амерыкі прапаноўвалі маляваць гравюры. З дапамогай драўлянай палачкі на спецыяльным чорным лісце дзеці малявалі каляровыя карціны. У выніку мама атрымала дзве эксклюзіўныя паштоўкі да 8 Сакавіка, а дзяўчатам падарылі алоўкі.

На працягу ўсёй выставы з галоўнай сцэны гучалі вершы і песні. Выступалі паэты з Мінскага абласнога аддзялення СП Беларусі. Сярод іх былі і прадстаўнікі нашага рэгіёна: **Кастусь Цыбульскі, Уладзімір Цанунін, Аляксандр Быкаў, Бажэна Мацюк, Віктар Кажура, Мікола Шабовіч, Аляксандр Быкаў**.

Цэны на кнігі здзіўлялі сваёй разнастайнасцю.

Мужчына ў чарзе перада мной усё вагаўся, ці набываць вялікую кнігу-даведнік па еўрапейскіх краінах. Кошт у 120 рублёў, канешне, уражваў. Кнігу, выдадзеную адначасова на рускай і англійскай мовах, мужчына хацеў набыць для ўнукаў, каб тыя вучылі англійскую.

"Ніжні парог" – 50 капеек. Столькі каштавалі дзіцячыя кніжкі-размалёўкі ў мяккай вокладцы. Далей – рубель. За такі кошт можна было набыць кнігі японскіх аўтараў у перакладзе на рускую мову, тонкія, але ў цвёрдай вокладцы, і карты аўтамабільных дарог. Жаночыя раманы з назвамі тыпу "Вернасць назаўжды" або "Смерць ад кахання" прапаноўвалі за два рублі.

Шмат было выданняў на англійскай, нямецкай, чэшскай, польскай мовах. Некаторыя з іх – у перакладзе па-беларуску.

**Беларускамоўныя кнігі для дзяцей сярэдняй таўшчыні каштавалі ад 10 да 17 рублёў. Прыкладна столькі ж – і для дарослых.**

Энцыклапедычныя даведнікі – ад 24 рублёў. Вялікі руска-англійскі слоўнік – 60.

**Мы набылі дзіцячую кніжку, настольную гульню і насценны каляндар, прысвечаны 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Дзіцячыя часопісы, закладкі, кішэнныя каляндарыкі, яркія расклад для ўрокаў і налепкі – сталі прыемным бонусам.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

## Кнігі, якія нас уразілі




У птушак у гэтай нямецкай кнізе былі мяккія жывоцікі.



3D-кніжка пра планеты.




Віляйчанін Віктар Кажура – для дзятвы.




Быкаў – па-руску і без цэнзуры.




Кніга, дзе ёсць усё пра Купалу.

# “Вертрагія”: мы паспяховыя, таму

МАЛАДЗЕЧНА

**Кампанія па вытворчасці дахавых і сценавых матэрыялаў “Вертрагія” сёлета адзначыць сваё 22-годдзе. Дэвіз кампаніі ўсе гэтыя гады быў і застаецца: *“Бездакорнасць і надзейнасць – наш профіль”.***

За 21 год “Вертрагія” стала адной з самых буйных, надзейных і вядомых кампаній у Беларусі. Што тут казаць, калі большасць усіх дахаў у Маладзечне, накрытых металачарапіцай і прафнасцілам, – вытворчасці “Вертрагіі”.

Сёння накірункі дзейнасці кампаніі – гэта выраб металачарапіцы, фальцавых карцін і прафнасцілу, гнута-зварных прамавугольных металаканструкцый, даборных элементаў і металаштыкетніку. “Вертрагія” забяспечвае будаўнічыя аб’екты ўцяпляльнікамі, прапаноўвае элементы сістэм вентыляцыі, мансардныя вокны, а таксама займаецца дрэваапрацоўкай. А з 2016 года “Вертрагія” распачала выраб металаштыкетніку, на які ў апошні час вельмі расце попыт сярод насельніцтва.

– Мы пераважна працуем на ўнутраны рынак, – кажа намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях **Дзмітры Катковіч**, – і толькі піламатэрыялы ідуць на экспарт. Працуем з Даніяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Іранам.

Пры гэтым, кажа намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях, арганізацыю можна назваць вельмі кампактнай, бо на вытворчасці працуе ўсяго 65 чалавек.

– Акрамя таго, што мы арганізацыя кампактная, можам назваць сябе і ўнікальнымі, бо ў нас ёсць уся лінейка пракатных станаў. Пачынаючы ад сценавых памераў 8, 20, 21 мм і заканчваючы дахавымі 35, 50, 57, 60, 75, 114 мм – усё гэта вышыня хвалі прафнасцілу. З намі заказчыкам працаваць зручна: сёння замовілі, заплацілі грошы – заўтра атрымалі гатовую прадукцыю.

Пастаўшчыкамі металапракату для нашай кампаніі з’яўляюцца металургічныя камбінаты з Расіі. У асноўным, гэта метал з Наваліпецка і Чарапаўца.

Кампанія “Вертрагія” пастаянна ўдасканальвае шляхі развіцця тэхналогій і імкнецца да пашырэння асартыменту ва ўмовах, калі патрабаванні рынку ўвесь час змяняюцца. “Вертрагія” стала значным партнёрам для лідараў будаўнічай індустрыі і праектных арганізацый пры будаўніцтве складаных будаўнічых аб’ектаў з выкарыстаннем прафнасціла і металачарапіцы: “Керамін”, “Еўраопт”, вытворчая база на атамнай станцыі ў Астраўцы, чыгуначны вакзал у Пінску, аўтавакзал у Маладзечне. Вынікам плённай працы кампаніі на рынках СНД сталі заключаныя кантракты на выраб, пастаўку і мантаж шэрагу буйных аб’ектаў з металаканструкцый. Сярод іх “Прампорт” у Чарапаўцы, мытневы тэрмінал “Марпорт” у Марыупалі, тэрмінал па перавалцы сыпучых грузаў і мінеральных угнаенняў у Расіі, шэраг вытворчых аб’ектаў у марскім порце ў Санкт-Пецярбургу, рэканструкцыя тытунёвай фабрыкі ў Іжорах, гасцініцы ў Ерэване.

Як і ўсе, прадпрыемства не абмінуў і крызіс.

– У 2016 годзе вельмі ўпалі аб’ёмы вытворчасці. Мы нават працавалі ў мінус і ў нуль. Але ўжо летась “Вертрагія” адзначыла Новы год у верасні. Прадпрыемства змагло вярнуць былыя аб’ёмы і ў канцы 2017 года працавала з прыбыткам.

Чаму ж “Вертрагію” можна назваць паспяховым прадпрыемствам?

Дзмітры Катковіч адказвае, што поспех “Вертрагіі” складаецца з таго, што, па-першае, “Вертрагія” – гэта калектыў аднадумцаў і кіраўніцтва, якое ўпэўненае, што прадпрыемства – гэта не толькі крыніца даходаў, а, перш за ўсё, любімая справа, якой трэба займацца сумленна.

– Мы ўвесь час абнаўляемся. Не так даўно запусцілі дзве новыя лініі: 21 і 114, а гэта немалыя грошы. Цяпер будуем сушыльную камеру для дрэва.

А па-другое, гэта якасная прадукцыя, якая запатрабаваная на рынку.

– У нас амаль выключаны брак. Таму што, як толькі метал паступае на прадпрыемства, мы адразу адсочваем яго якасць.

У верасні 2017 года “Вертрагія” перайшла на пробную версію СТБ ISO 9001-2015 і атрымала сертыфікат адпаведнасці, які сведчыць, што сістэма менеджмента якасці можа выкарыстоўвацца і ў вытворчасці профіляў металічных халоднагнутых для дахаў, для вонкавай абліцоўкі фасадаў будынкаў і камплектуючых вырабаў да іх, вырабаў стальных гнутых для сістэм вонкавага водаадвядзення.

**Пра поспехі кампаніі сведчаць і дыпломы пераможцаў шматлікіх конкурсаў, якія штогод папаўняюць скарбонку дасягненняў кампаніі.**



Маляр Вольга Панкова.



Начальнік цэха сценавых і дахавых матэрыялаў Аляксандр Анатольевіч Залескі і намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях Дзмітры Міхайлавіч Катковіч.




Вальцоўшчык Аляксандр Разнічэнка.

# што не ведаем слова “Не!”





На вытворчасці.



Брыгадзір участка дрэваапрацоўкі Аляксей Герштыновіч.



У 2017 годзе, напрыклад, “Вертрагія” стала двойчы пераможцай у рэспубліканскім конкурсе “Лепшы будаўнічы прадукт года”. Журы адзначыла высокую якасць металічнага халоднагнутага профілю для дахаў з трапецыяпадобным абрысам гофры тыпу П-ТР-п-114-600 і ліста прафіляванага з трапецыяпадобным абрысам гофры для абліцоўкі сцен.

## Заробак “па 500 і болей”

Канешне, на любым прадпрыемстве галоўная каштоўнасць – гэта людзі.

> **– У нас вельмі высокі ўзровень сацыяльнай абароненасці. І “ўстаноўку” пра заробак “па 500” мы выконваем. Нашы работнікі атрымліваюць нават болей. За работу ў нас трымаюцца. І выпадковых людзей у нашым калектыве няма.**

– Акрамя таго, мы кормім сваіх работнікаў абедамі. Штодзённа за кошт фірмы возім у сталовую. Даём праязныя білеты, плацім за выслугу гадоў, да адпачынку даём надбаўку. Новы год заўсёды святкуем разам. Адзінае патрабаванне – працаваць добра і сумленна.

Аднымі з першых у “Вертрагіі” перайшлі на гаспадарчы разлік.

– Цяпер заробак залежыць не толькі ад планавых паказчыкаў, але і ад прыбытку па кожным напрамку. Таму цікавасць супрацоўнікаў заключаецца не толькі ў тым, каб выканаць квадратныя метры і атрымаць прэмію, але і ў тым, каб здзелкі, якія заключае кампанія, былі рэнтабельныя.

Што датычыцца патрабаванняў да начальнікаў аддзелаў, то тут важна не проста мець вышэйшую адукацыю, а быць разумным чалавекам з шырынёй позірку.

– Трэба, па-першае, быць спецыялістам у сваёй справе, пры гэтым разбірацца і ў бухгалтэрыі, эканоміцы, быць дыпламатам.

– Яшчэ адна асаблівасць нашага прадпрыемства ў тым, што мы гатовыя брацца за любыя, нават самыя невыканальныя, на першы погляд, замовы. І проста не ведаем слова “Не!”.

# Праверка кароў у Лебедзеве ў 1943 годзе: "Дзе малако за ўсё лета?"

МАЛАДЗЕЧНА

**Антон Апанасевіч працуе настаўнікам гісторыі ў Лебедзеўскай школе. І больш за 30 гадоў збірае сведчанні сталых людзей пра тое, чым жыло мястэчка 50, 100 і больш год таму. У гэты нумар ён падрыхтаваў матэрыял пра кірмаш у Лебедзеве ў 1943 годзе.**



"Дзе малако за ўсё лета?" – малюнак Бібік Кацярыны, вучаніцы 11 класа Лебедзеўскай сярэдняй школы.

Канец мая 1943 года. Справы на савецка-германскім фронце складваліся для фашыстаў не самым лепшым чынам. Вайна патрабавала ўсё большых і большых рэсурсаў, у тым ліку і харчавання.

Лебедзева, жывёльны рынак. З мэтай актывізацыі здачы малака і ялавічыны на карысць германскай арміі, нямецкія акупацыйныя ўлады арганізавалі тут праверку стану буйной рагатай жывёлы мясцовага насельніцтва і колькасці здадзенага малака ад кожнай каровы на карысць гітлераўскай Германіі. Адказным за гэта мерапрыемства быў прызначаны мясцовы солтыс, а названая праверка закранула ўсе населеныя пункты Лебедзеўскай гміны.

Лебедзеўскі жывёльны рынак і ў час вайны меў прывабны выгляд. Вакол яго была добрая агароджа ў два паясы. Уся рынкавая тэрыторыя была высыпаная жвірам. Пад насыпам знаходзіўся дрэнаж, бо месца яго знаходжання было балоцістым. Заезд на рынак ажыццяўляўся праз адзін з двух мастоў. Адразу за мостам знаходзіліся каса для продажу білетаў, далей – вагавая. Выезд з рынку праходзіў праз другі мост, паралельны першаму.

> **У часы Польшчы заезд на кані на тэрыторыю рынку каштаваў 50 грошай.**

Тады гэта была чацвертая частка кошту аднаго пуда жыта. За продаж на рынку каня, каровы альбо воза дабра трэба было заплаціць два злоты падатку. Праўда, жыхары, якія жылі вакол рынку, знаходзілі лаз і праходзілі на рынак з дробнай жывёлай, мінуючы касу, без аплаты за гандлёвае месца. У час вайны рынак не працаваў.

Раней на рынку падобных праверак немцы не праводзілі. У час яе на агляд жывёлы сабралі вялікую колькасць лебедзеўцаў і жыхароў навакольных вёсак: Лабачоўкі, Маросек, Вялікай і Малой Боркаўшчыны, Асанава, Грудак і іншых.

Кароў сабралі яшчэ больш, чым людзей, бо некаторыя сем'і мелі па некалькі галоў. Жывёлы стаялі шчыльнымі радамі.

> **Ля сваіх карміліц знаходзіліся іх гаспадары і чакалі прыезду правяраючых.**

У кожнага ўладальніка каровы была напагатове спецыяльная кніжка, у ёй фіксаваліся звесткі аб жывёле і колькасці здадзенага малака на карысць Германіі за год.

У Лебедзеве да прыходу немцаў не было сваёй малачарні. Яна была адкрытая гітлераўцамі ў 1941 годзе ў падвальным памяшканні былога магазіна па продажы жалезных вырабаў, які раней належаў братам Тану і Лэйзару Тайбукам. Малачарня нагадвала невялікі цэх па вырабе смятаны, масла і сыру. У ёй працавалі некалькі чалавек пад кіраўніцтвам жыхара з Дамашоў па прозвішчы Каханоўскі.

Раніцай усе, хто меў кароў, павінны былі здаваць у гэту малачарню свежае малако. Пасля здачы рабілася паметка ў кніжцы. Плата была сімвалічная. Плацілі нямецкімі грашовымі білетамі, якія мелі хаджэнне на акупаваных тэрыторыях. Пасля перапрацоўкі малака адгон вярталі назад здатчыкам малочнай прадукцыі для корму іх свіней. Гадавая норма здачы малака – не меней за 240 літраў у год ад кожнай каровы.

Яшчэ ў 1941 годзе ў жыхароў, у якіх было па дзве каровы, немцы адну карову забіралі і выдавалі ім квітанцыі і невялікія грошы. Прадукцыю, выробленую з малака, адпраўлялі на фронт для нямецкіх салдат і афіцэраў. Пасля першай рэквізіцыі некаторыя гаспадары зноў на момант гэтай арганізаванай праверкі валодалі некалькімі каровамі.

У дзень праверкі звонку агароджы рынку сабраліся і тыя лебедзеўцы, якія жылі паблізу. Тут іх зацікавіла вялікае зборышча людзей і жывёлы.

> **Прыкладна ў 11 гадзін раніцы спачатку на рынак заехаў легкавы аўтамабіль, а следам за ім пад'ехаў грузавік, у кузаве якога знаходзіліся вайскоўцы.**

Мясцовая паліцыя з'явілася тут яшчэ раней і павінна была сачыць за парадкам. Прысутныя з цікавасцю назіралі за тым, што будзе далей.

Пасля невялікай замінкі з легкавога аўтамабіля з цяжкасцю, нібы не вылез, а выкаціўся вайсковец у жоўта-зялёным адзенні, на якім была форма афіцэра ветэрынарнай службы. Ростам ён быў не больш за паўтара метра і вельмі тоўсты. Яго тулава нагадвала піўную бочку, на корпусе якой, пасярэдзіне, віссеў абруч у выглядзе падперазанага рэменя, які быў зашпілены на апошнюю дзірку. Спераду, на жываце немца, віссеў яго пісталет у рыжай кабуры.

На пачатку праверкі выгляд нямецкага афіцэра выклікаў у прысутных усмешку, а ў тых, хто знаходзіўся ад яго далей, – смех. Дзеці, якія вучыліся непадалёк у пачатковай школе, таксама падышлі да агароджы рынку і, убачыўшы нязграбнага немца, пачалі паказваць на яго пальцамі і гучна смяяцца. Сярод сведак той праверкі быў і Фёдар Ігнацьевіч Семашкевіч. Наступныя падзеі праверкі многім паказалі, што хутка ім тут будзе не да смеху і жартаў.

У руках правяраючага людзі заўважылі нядаўна высечаную бярозавую рагаціну.

> **Праз некалькі хвілін усім стала зразумела, для чаго гэта палка, а некаторыя прысутныя на праверцы апрабавалі яе ўдары на сваім целе.**

Хутчэй за ўсё, калі немец ехаў у Лебедзева, каля лесу Альшанка прыхапіў яе для ўстрашэння гаспадароў у час праверкі.

Працяг будзе.

**Антон АПАНАСЕВІЧ, настаўнік гісторыі Лебедзеўскай СШ.**

● КАЛЯНДАР

## 9 САКАВІКА

**100 гадоў** з дня ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка была аб'яўленая яе незалежнасць.



**135 гадоў** з дня нараджэння **Францішка Аляхновіча** (1883, Вільня – 1944), драматурга, публіцыста, празаіка, тэатральнага дзеяча. Яго аповесць "У капцюрох ГПУ" з'яўляецца першым творам сусветнай літаратуры, якая апісвае жыццё ў сталінскім канцэнтрацыйным лагеры непасрэдна з погляду арыштанта. Яго п'есы актыўна ставіліся аматарскімі і паўпрафесійнымі калектывамі Заходняй Беларусі, Латвіі, Чэхіі і найбольш трупай Уладзіслава Галубка. За плённую працу на ніве тэатра яшчэ пры жыцці яму прысвоілі званне "бацькі навейшай беларускай драматургіі". Бацька Францішка, Караль Аляхновіч, нашчадак збяднелага шляхецкага роду з-пад Радашкавічаў, быў прафесійным скрыпачом і працаваў у розных віленскіх тэатральных аркестрах.

**1934.** Нарадзіўся **Юры Гагарын**, першы касманаўт Зямлі. Загінуў у 1968 годзе.

**1814.** Нарадзіўся **Тарас Шаўчэнка**, украінскі пісьменнік, мастак, грамадскі дзеяч, заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. Аб'яднаў у сваіх паэтычных творах жывую гутарковую мову са сродкамі мовы кніжнай, узнёс украінскую літаратурную мову на новы, якасна больш высокі ўзровень. Шырока карыстаючыся лексікай розных галін навукі і мастацтва, ён фактычна заклаў падмурак тэрміналагізацыі украінскай лексікі. Памёр у 1861 годзе.

## 10 САКАВІКА

**1939.** Адкрыўся ў Мінску будынак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь).

## 11 САКАВІКА

**115 гадоў** з дня нараджэння **Тодара Кляшторнага** (1903 – 1937), беларускага паэта.

**1990.** У Мінску адслужана першая ў навейшай гісторыі грэка-каталіцкая літургія па-беларуску.

## 13-15 САКАВІКА

**120 гадоў** назад (1898) у Мінску адбыўся I з'езд РСДРП. Утварэнне Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Радыяцыйны анколаг: здаровыя органы ад апрамяньвання не пацерпяць

**Аб прамянёвай тэрапіі распавядае доктар-радыяцыйны анколаг Брэсцкага абласнога анкалагічнага дыспансера Вольга Башарава.**



Доктар-радыяцыйны анколаг Брэсцкага абласнога анкалагічнага дыспансера Вольга Башарава.

Фота Ірыны ШАТЫЛЫ.

**– Наколькі выпраменьванне, што выкарыстоўваецца для лячэння людзей са злаякаснымі пухлінамі, уплывае на арганізм? Як не круці – гэта радыяцыя.**

– Па-першае, радыяцыя ўздзейнічае толькі падчас апрамяньвання. Па-другое, мы выкарыстоўваем высокатэхналагічныя метады, пры якіх здаровыя тканкі максімальна засцерагаюцца. Ідзе лакальнае апрамяньванне пашкоджанага ўчастка, яно максімальна адпавядае памеру і канфігурацыі пухліны.

Людзі часта пытаюцца, ці не закране выпраменьванне здаровыя органы. Не. Сучасныя тэхналогіі дазваляюць кантраляваць працэс апрамяньвання з высокай дакладнасцю. Пацыенты часта цікавяцца, як ім вывесці радыяцыю. Але яна і не назапашваецца, каб яе выводзіць.

**– Але нейкія правілы ж ёсць, як сябе паводзіць, што можна, што нельга? Пацыенты, я так разумею, знаходзяцца ў стацыянары?**

– Ёсць радыелагічнае аддзяленне, дзе пацыенты праходзяць стацыянарнае лячэнне, і ёсць амбулаторнае, куды пацыенты прыходзяць з дому, апраменьваюцца і вяртаюцца назад. Ніякай небяспекі для іншых пасля сеансу прамянёвай тэрапіі яны не ўяўляюць.

Калі чалавек сябе нармальна адчувае, то спакойна можа хадзіць на працу. У адваротным выпадку яму выдаецца лісток часовай непрацаздольнасці.

**– Як пацыент адчувае сябе пасля сеансаў?**

– Прамянёвая тэрапія – гэта лячэнне, якое з'яўляецца сур'ёзнай нагрузкай для арганізма, таму ў ходзе яго чалавек можа адчуваць стомленасць. У сувязі з гэтым пацыенту трэба больш адпачываць. Аднак не варта ўвогуле пазбягаць фізічнай актыўнасці, якая павышае ахоўныя сілы арганізма і ўстойлівасць да шкодных уздзеянняў.

Прамянёвая тэрапія, як і любы іншы від лячэння, можа суправаджацца агульным і мясцовым пабочным дзеяннем у месцы ўздзеяння апрамяньвання на тканкі. Гэтыя з'явы могуць быць вострымі (кароткачасовымі, узнікаюць падчас лячэння) і хранічнымі (развіваюцца праз некалькі тыдняў і нават гадоў пасля заканчэння лячэння).

Пабочнае дзеянне радыетэрапіі часцей за ўсё праяўляецца ў тканках і органах, якія падвергліся непасрэднаму ўздзеянню апрамянення. Большасць пабочных з'яў, якія развіваюцца падчас лячэння, параўнальна лёгкія і лечацца медыкаментозна ці праз правільнае харчаванне. Яны, як правіла, знікаюць на працягу трох тыдняў пасля заканчэння прамянёвай тэрапіі.

У многіх пацыентаў пабочныя з'явы ўвогуле не ўзнікаюць. Падчас правядзення лячэння доктар кантралюе стан пацыента і ўплыў апраменьвання на функцыі арганізма.

**– З якімі міфамі, якія тычацца прамянёвай тэрапіі, вы сутыкаецеся?**

– Некаторыя пацыенты думаюць, што яны заразныя. Некаторыя думаюць, што мы апраменьваем іх цалкам.

**– Адзін з пабочных эфектаў хіміятэрапіі – аблысенне. А ў прамянёвай тэрапіі ён ёсць?**

– Татальнага аблысення пры прамянёвай тэрапіі не будзе. Выпадзенне валасоў магчыма толькі на тым участку, куды было накіраванае поле.

**– У чым розніца паміж хіміятэрапіяй і прамянёвай, ці можна сказаць, што нейкі з гэтых метадаў лячэння больш эфектыўны, а нейкі больш ашчадны? Ці бывае, што пацыенту даюць магчымасць выбіраць, як лячыцца?**

– Хіміятэрапія і прамянёвая тэрапія – прынцыпова розныя метады ўздзеяння на пухліну, якія ў той жа час здольныя ў пэўных выпадках ўзмацняць дзеянне адзін аднаго.

У нас існуюць пратаколы лячэння анкалагічных пацыентаў, зацверджаныя Міністэрствам аховы здароўя, згодна з якімі анколагі вызначаюць далейшую тактыку лячэння.

**– Цяпер, калі ўсё больш інфармацыі ў інтэрнэце, па тэлебачанні і прыкладаў лячэння блізкіх, людзі могуць сумнявацца ў абранай для яго схеме лячэння.**

– Калі чалавек сумняваецца, нішто не перашкаджае яму пракансультавацца ў некалькіх спецыялістаў.

Гэта нармальна, калі чалавек турбуецца пра сваё здароўе, хоча для сябе лепшага.

**– У інтэрнэце можна прачытаць гісторыі, калі людзі з анказахворваннямі адмаўляюцца ад традыцыйных метадаў лячэння і спрабуюць змагацца з пухлінай травой, гіпнозам. Ваша стаўленне да гэтага?**

– Калі людзі ігнаруюць традыцыйныя метады лячэння і асноўны ўпор робяць на травы, атруты і іншыя спосабы, яны рызыкуюць страціць час і запусціць хваробу.

Калі гэта ідзе на фоне традыцыйнага лячэння, яны, вядома, могуць думаць, што ім дапамаглі травы, але на самой справе гэта не так. Любы разважны чалавек, на мой погляд, разумее, што не трэба гэтым займацца.

> **Анкалогія – гэта занадта сур'ёзна, каб давяраць сваё здароўе непрафесіяналам.**

**– Колькі па часе доўжыцца адзін сеанс?**

– У залежнасці ад лакалізацыі, колькасці палёў. У сярэднім 10-15 хвілін.

**– Нейкія непрыемныя адчуванні падчас яго ёсць?**

– Са слоў пацыентаў, хтосьці пасля можа адчуваць лёгкую млоснасць і стомленасць. Болевых адчуванняў няма. Магчыма, некаторым складана знаходзіцца ў адным становішчы на працягу ўсяго сеанса. Часам ён праводзіцца ў нязручнай для чалавека позе, напрыклад, з узнятымі ўверх рукамі. Хоць мы выкарыстоўваем спецыяльныя фіксуючыя прылады, каб людзям было максімальна камфортна. Таксама дзякуючы ім становішча цела чалавека кожны раз застаецца аднолькавым, што неабходна для максімальна дакладнага апрамяньвання.

**– На целе неяк пазначаецца, куды накіроўваць поле?**

– У нас ёсць лазерная прылада, з дапамогай якой на цела чалавека наносяць пазнакі. Усё аўтаматызавана, камп'ютарная сістэма стварае некалькі ўзроўняў ідэнтыфікацыі пацыента.

**– Наколькі паспяховая прамянёвая тэрапія як метад лячэння?**

– Прамянёвая тэрапія ўжываецца для лячэння розных відаў раку. У цяперашні час больш за палову хворых, якія пакутуюць тым ці іншым відам раку, паспяхова лечацца з дапамогай апраменьвання. Яно можа выкарыстоўвацца ў выглядзе самастойнага метаду лячэння.

Даволі часта для разбурэння пухліны дактары ўжываюць яго сумесна з хіміятэрапіяй. Часам прамянёвую тэрапію праводзяць перад аперацыяй для памяншэння памераў пухліны або пасля яе для знішчэння пакінутых ракавых клетак. Нават у тых пацыентаў, якім нельга выдаліць пухліну, прамянёвая тэрапія дазваляе паменшыць яе памеры, аслабіць боль і палепшыць агульны стан.

**– Важна прайсці поўны курс прамянёвай тэрапіі?**

– Так. Але бывае, што ў сілу індывідуальнай адчувальнасці пацыенты могуць проста не перанесці ўвесь курс да канца. У гэтым выпадку мы робім перапынак 10-14 дзён, чалавек аднаўляецца і вяртаецца для далейшага лячэння.

**– Ці трэба мяняць сваё харчаванне падчас курсу?**

– Неабходна добра харчавацца і імкнуцца прытрымлівацца збалансаванай дыеты з улікам суадносін бялкоў, тлушчаў і вугляводаў. Мяса птушкі, рыба, малочныя прадукты, арэхі, разнастайныя крупы, садавіна і гародніна. Таксама неабходна прымаць 2-2,5 літра вадкасці ў суткі. Выключыць з рацыёна вострае, перапрацаваныя мясныя прадукты – кілбасы і іншае, салёнае, абмежаваць спажыванне простых вугляводаў і рафінаванага цукру.

**– З якім настроем людзі прыходзяць на апрамяненне?**

– Пераважна пацыенты настроены аптымістычна. І гэта радуе!

**– Але, напэўна, бываюць сітуацыі, калі чалавек падаўлены і не верыць у паспяховы зыход? Як у такіх выпадках паводзіць сябе доктар?**

– Спагада і ўдзел – незаменныя памочнікі ў зносінах з пацыентамі. Важна зразумець пацыента, адчуць, што сказаць канкрэтна гэтаму чалавеку для ўзняцця баявога духу і матываваць працаваць у камандзе.

**Людміла СЕЛЕХ,**
**"Брестская газета".**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 6)

## Абяцаем падарункі за малюнкі пра шахматы

**Віталь Качаткоў рыхтуе да друку кнігу-дапаможнік пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.**

Дасылайце любыя дзіцячыя малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: 222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". Маляваць можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

**Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.**

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тых, што размесціць пасля ў кніжцы.

Чакаем малюнкі да 19 сакавіка.

### Урок №5. Ферзь

Ферзь – самая моцная і магутная фігура. Праста патлумачыць хады ферзя можна так: гэта ладдзя плюс слон. Таму што ферзь можа хадзіць і біць і як ладдзя, і як слон.



Ферзь можа пайсці на любую клетку, пазначаную лініяй у папярэднім малюнку.



На пазіцыі ў малюнку вышэй белы ферзь можа пабіць любую чорную фігуру. Але гэта не значыць, што можа пабіць усе фігуры адначасова. За адзін ход ферзь можа пабіць толькі адну фігуру. А самае цікавае, што можа і не біць.

Пагуляйце ў гульню ферзь супраць ферзя. Пасля – ферзь супраць ладдзі, ферзь супраць слана. Супраць ладдзі і слана. Супраць двух ладдзей і слана. Супраць двух ладдзей і двух сланоў. Можна правесці тэматычныя шахматныя турніры.

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## У "Надзеі" правялі турнір па валейболе паміж мужчынскімі камандамі

ВІЛЕЙКА

3 сакавіка ў дзіцячым цэнтры "Надзея" зладзілі штогадовы турнір па валейболе сярод мужчынскіх камандаў установаў, прадпрыемстваў і арганізацый Вілейскага раёна.

Арганізатарамі турніру ўжо шмат гадоў з'яўляюцца дзіцячы цэнтр "Надзея" і аддзел адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама. Сёлета ўдзел прынялі 8 камандаў.

1-е месца ў турніры і пераходны Кубак заваявала каманда РУП Мінскэнерга "Вілейскае МРА". Дыплом за другое месца атрымала каманда "Надзея". Трэцімі сталі каманда вілейскага ЖКГ. Пераможцы атрымалі дыпломы і грашовыя прэміі.

Гульцоў узнагародзілі ў пэўных намінацыях. Лепшым нападаючым стаў **Дзмітры Брылеўскі** з каманды "Вілейскага МРА", лепшым абаронцам – **Сцяпан Млечка** з каманды "Першы беларускі". Самымі карыснымі гульцамі, на думку журы, сталі **Аляксандр Карыцька** з Вілейскага ЖКГ і **Мікалай Верамей** з "Надзеі".

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Момант гульні.







Фотаздымкі карыстальнікаў Instagram.

# Вясна падарыла снежныя дзянькі? Уставай на лыжы!

МАЛАДЗЕЧНА

**За гэту доўгую зіму хіба вам не надакучыла сядзець дома з кубкам гарачай гарбаты пад цёплым пледам?**

Ад такога баўлення часу няма ні карысці, ні задавальнення. Але раз зіма ў нас была незразумелая, то цёплай з адлігамі, то марознай без снегу, дык вясна падарыла нам сапраўднае зімовае, марознае і сонечнае надвор'е.

Таму выбірайце: лыжы, санкі, канькі, сноўборд і... на вуліцу, гуляць, дыхаць. Паглядзіце, як гэта робяць жыхары Маладзечаншчыны і Вілейшчыны. Яны з задавальненнем дзеляцца сваімі спартыўнымі поспехамі ў Instagram. Бярыце з іх прыклад. Вы ведалі, што свежае паветра стымулюе абменныя працэсы ў арганізме? А ў гэтым артыкуле мы падкажам, які відам спорту варта заняцца, пакуль не сышоў снег, каб умацаваць здароўе, імунітэт і падняць сабе настрой?

### Саступіце хлопцу лыжню

Гэты зімовы від спорту адносіцца да аэробных нагрузак, гэта значыць, рух без прыпынкаў на працягу доўгага перыяду часу. Падчас такіх трэніровак павышаецца цягавітасць, а таксама адбываецца агульнае аздараўленне арганізма: паляпшаецца работа сардэчна-сасудзістай сістэмы, органаў дыхання, апорна-рухальнага апарату, павышаецца імунітэт.

**Акрамя таго, лыжныя прагулкі павінны ўваходзіць у абавязковую праграму людзей, якія хочуць пахудзець: хада на лыжах дазваляе спаліць да 500-600 калорый у гадзіну ў залежнасці ад прыкладзеных высілкаў.**

А таксама ўмацаваць мышцы спіны, сцёгнаў, жывата, ягадзіц, ног і рук. На думку дактароў, зімой трэба ладзіць гадзінныя прагулкі на 3-5 кіламетраў 2-3 разы на тыдзень, каб падтрымліваць сябе ў выдатнай форме.

### Калі ў вас жыве фігурыст

Катанне на каньках выдатна трэніруе гнуткасць, шпаркасць, спрыт і ўменне трымаць раўнавагу. Канькабежны спорт дапамагае развіваць мышцы пераважна ніжняй часткі цела, а спартсмены, якія займаюцца фігурным катаннем і выконваюць розныя трукі і падтрымкі, маюць больш моцны "верх". Акрамя таго, рэгулярныя заняткі на лёдзе ўмацоўваюць здароўе, павышаюць тонус арганізма і яго супраціўляльнасць розным інфекцыям, а таксама паляпшаюць настрой дзякуючы павышанай выпрацоўцы эндарфінаў – "гармонаў шчасця". Катаючыся на каньках, нават пачаткоўцы маюць шанцы хутка здабыць стройнае і падцягнутае цела і пазбавіцца ад цэлюліту, бо ўсяго за гадзіну катання на каньках можна спаліць да 400-500 калорый і ўмацаваць мышцы ног, сцёгнаў і ягадзіц. Для ўзняцця тонусу арганізма дастаткова катацца на каньках 2-3 разы на тыдзень па гадзіне.

### Баязлівец не гуляе ў хакей

Хакей лічыцца дастаткова агрэсіўным відам спорту, аднак аматарскія гульні бяспечныя і нават карысныя для арганізма. Падчас трэніровак задзейнічаная як ніжняя, так і верхняя частка цела, дзякуючы чаму выдатна прапрацоўваюцца мышцы ног, рук, жывата і спіны. У залежнасці ад інтэнсіўнасці гульні за гадзіну спальваецца да 500-600 калорый. Хакей таксама спрыяльна ўплывае на вестыбулярны і апорна-рухальны апарат, павышае імунітэт. Гэты камандны від спорту трэніруе і характар, выпрацоўваючы такія якасці, як цягавітасць, упартасць, спрыт і рэакцыя. Каб атрымаць максімальную аддачу ад гульні ў хакей, варта гуляць 1-2 разы на тыдзень па гадзіне, робячы невялікія перапынкі ў гульні.

### Вось нехта з горачкі

Катанне на санках – гэта не толькі дзіцячая забава, але і выдатны спосаб падтрымліваць цела ў тонусе. Падчас спускаў і пад'ёмаў арганізм атрымлівае ўмераную кардыянагрузку, дзякуючы чаму адбываецца ўмацаванне сардэчнай мышцы, нармалізуецца крывяны ціск, а таксама эфектыўна спальваюцца калоры і сыходзяць лішнія кілаграмы. Акрамя таго, катанне на санках – гэта сапраўдны "антыдэпрэсант". Пакатайцеся гадзінку, і добры настрой вам гарантаваны надоўга.

**Наталля ТУР паводле medweb.ru.**

### Агульныя рэкамендацыі пры занятках спортам зімой

- Перш чым заняцца якім-небудзь з зімовых відаў спорту, варта пракансультавацца з доктарам і высветліць, ці няма супрацьпаказанняў да падобнай фізічнай актыўнасці.
- Адзенне для заняткаў спортам зімой павінна быць цёплым і якасным, тканіна не павінны хутка намакаць і прадзімацца ветрам.
- Займацца спортам на галодны страўнік не рэкамендуецца. Аптымальны час для трэніровак – праз гадзіну-дзве пасля яды. Не забывайце піць больш вадкасці, бо падчас актыўных заняткаў арганізм губляе шмат вільгаці.
- Для такіх відаў спорту, як лыжы і хакей, неабходныя добрыя засцерагальныя сродкі: шчыткі, шлем, якія дапамогуць пазбегнуць магчымых траўмаў.
- Не трэба пераацэньваць свае магчымасці: выбірайце мясцовасць, прыдатную для вашага ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. У гэтай гарачай краіне здабываюць каля 90% усіх ізумрудаў свету.
2. Самы распаўсюджаны ў прамысловасці гатунак кавы.
4. Спалучэнне фарбаў, колераў, якое стварае пэўнае адзінства ў карціне.
6. Самая моцная мышца чалавека.
7. Краіна, у якой вынайшлі запалкі і правялі першы перапіс насельніцтва.
9. Пастаянная велічыня.
11. Механічны сігнальны гудок.
14. Пухліна, якая ўзнікае ад лішку вадкасці ў тканках.
15. Самае распаўсюджанае млекакормячае на планеце пасля чалавека.
16. Разглядаючы цалкам, не звяртаючы ўвагі на дробязі, прыватнае.
18. Буслава гняздо.
19. Травяністая расліна, якая прыгожа і пахуча цвіце.
23. Начная млекакормячая жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Урачыстае абяцанне, запэўненне.
3. Доўгі паглыблены прарэз на паверхні глебы, зроблены плугам ці іншымі сельскагаспадарчымі прыладамі.
5. Гэты папулярны сёння дэсерт упершыню прыгатавалі маскоўскія кандытары ў 1912 годзе і зрабілі яго трохвугольным.
8. В’етнамскія востраканечныя шапкі прыдуманыя для таго, каб засцерагчы галаву ад нечага, што без гэтых шапак забівае.
10. Упрыгожваць ёй страву пачалі старажытныя рымляне. Меркавалася, што яна нейтралізуе атруту, калі яе падкінулі ворагі.
12. Імклівы напад на пазіцыі праціўніка.
13. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху.
17. Некаторыя харчовыя тавары: мука, крупы, цукар, а таксама прыправы.
18. Разьбяная або пафарбаваная планка, з якой робяць рамы, карнізы.
20. Частка прадмета, на якой замацоўваюцца астатнія яго часткі; каркас, касцяк.
21. На гербе гэтага горада Магілёўскай вобласці рука трымае сярэбраны бязмен.
22. У гэтай краіне гатуюць самую вялікую страву ў свеце. Вярблюда фаршыруюць цэлым бараном, 20 курамі, 60 яйкамі і іншымі інгрэдыентамі.

## Адказы на крыжаванку з №9

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 4. Заварка. 5. Кітай. 6. Барбадас. 8. Жывіца. 11. Агляд. 12. Ахутаць. 14. Азёры. 16. Чай. 18. Патрон. 19. Халера. 22. Жэўжык.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Енк. 2. Доктар. 3. Дыснэй. 7. Баранавічы. 9. Зранку. 10. Абсяг. 12. Авіяцыя. 13. Юшка. 15. Галька. 17. Ёлуп. 20. Еўгеніка. 21. Значэнне.



## ГАРАСКОП 9-15 САКАВІКА

**АВЕН.** Вам трэба трымаць эмоцыі пад кантролем, бо цяпер вас будуць выпрабоўваць на трываласць. Унутры вас будуць кіпець страсці, якія пастараюцца вырвацца вонкі і выліцца на любога, хто патрапіць пад руку. Стрымлівайце сябе ў любых сітуацыях, каб не нашкодзіць сабе.

**ЦЯЛЕЦ.** Не спяшайцеся спрачацца з-за супрацьлеглых меркаванняў ці супярэчных звестак. Непрыемныя сітуацыі самі сабой вырашацца, а вы станеце мудрэйшымі, перажыўшы іх.

**БЛІЗНЯТЫ.** Не варта перажываць па дробязях, якімі б значнымі яны для вас ні здаваліся. Кожнай падзеі трэба даваць узважаную ацэнку, нічога не перабольшваючы і не прымяншаючы. Гэта жыццёвая мудрасць будзе актуальная для вас менавіта цяпер, што дазволіць вам захаваць спакой, дабрабыт у сям’і і на рабоце.

**РАК.** Вы зможаце радавацца,назіраючы за тым, як лёгка і спрыяльна развіваюцца падзеі вакол вас, як усё складваецца менавіта так, як вы хацелі, без якога-небудзь умяшання з вашага боку. У гэты час добра вучыцца мудрасці ў жыцця.

**ЛЕЎ.** Вам усё будзе ў радасць. Нават ад звычайнай работы вы зможаце атрымаць задавальненне. Гэтыя дні – перыяд спакою і адпачынку.

**ДЗЕВА.** Старайцеся сябе стрымліваць і не ўпадаць у крайнасці, бо вам то не захочацца нічога рабіць, то будзеце шкадаваць сябе, то крыўдзіцца на ўвесь свет, то, наадварот, спрабаваць горы зрушыць. Ад такога дысбалансу ўзнікнуць розныя перашкоды на вашым шляху.

**ШАЛІ.** Пачынайце працу над сабой: падумайце, ці ўсё вы правільна робіце, ці да тых мэт імкняцеся. Пара ўзяцца за наладжванне і ўзнаўленне ранейшых сувязяў, якія аслаблі з-за вашай татальнай занятасці.

**СКАРПІЁН.** Не зацыклівайцеся на фінансавым баку жыцця. Грошы ж не самае галоўнае, яны прыходзяць і сыходзяць. А вось новыя рамантычныя адносіны адцягнуць увагу ад розных перажыванняў. Значыць, цяпер патрэбныя новыя знаёмствы. А калі вы яшчэ акажацеся на адной “хвалі” з субяседнікам, то ўсё астатняе адыдзе на іншы план.

**СТРАЛЕЦ.** Вам варта ўсур’ёз задумацца над фінансавымі пытаннямі, якія апошнім часам цалкам выходзяць з-пад вашага кантролю. Цяпер спрыяе лёс, і ў вас з’явяцца магчымасці самастойна штосьці змяніць. Але толькі ў тым выпадку, калі вы будзеце прыслухоўвацца да свайго сэрца і інтуіцыі.

**КАЗЯРОГ.** Праяўляйце больш фантазіі, пачуцця гумару і аптымізму. Старайцеся ўсюды знаходзіць нестандартныя рашэнні, гэта істотна дапаможа і дома, і на рабоце.

**ВАДАЛЕЙ.** Даецца магчымасць займець мір у душы, гэта значыць, прывесці свой унутраны свет да такога стану, калі ніякія знешнія падзеі не змогуць вас расстроіць і выбіць з каляіны. На гэтых днях у вас стануць зараджацца новыя ідэі і адкрывацца цікавыя перспектывы.

**РЫБЫ.** Не ўзвальвайце на сябе шмат работы, не спрабуйце перарабіць усе справы, вырашыць пытанні, бо тады, акрамя фізічнай стомленасці, вы нічога не адчуеце. Навучыцеся размяркоўваць справы і атрымліваць асалоду ад жыцця.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | | 8 | | | 4 | 9 |
| 7 | 6 | 9 | 5 | | | | | |
| | | | | | 1 | 6 | | 2 |
| 3 | 8 | | | | 7 | | 6 | 4 |
| 4 | | | | | 5 | | | |
| | | 7 | | | 8 | | | |
| 9 | | | 4 | | | 1 | | |
| 1 | | | | | 9 | | 2 | 3 |
| 2 | 3 | | | | | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Казка пра чырвоную стужачку**” 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

10 сакавіка – у 12:00

**У ДНІ ВЯСЕННІХ КАНІКУЛАЎ**

“**Казка пра чырвоную стужачку**” 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

27 сакавіка – у 10:30

“**Тайна вострава людаедаў**” 6+ (пірацкі трылер у адной дзеі), *Дамір Салімзянаў*

28 сакавіка – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫСВЕЧАНЫ МІЖНАРОДНАМУ ЖАНОЧАМУ СВЯТУ**

“**Афінскія вечары**” 12+ (камедыя ў двух дзеях), *Пётр Гладзілін*

9 сакавіка – у 17:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Час сэканд-хэнд**” 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*

17 сакавіка – у 17:00

**ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ г. Маладзечна**

**ГАСТРОЛІ ВЕЛІКАЛУКСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА (РФ), ПРЫСВЕЧАНЫЯ СУСВЕТНАМУ ДНЮ ТЭАТРА**

“**Пані Мяцеліца**” 3+ (казка для сямейнага прагляду), *Павел Сяргееў*

21 сакавіка – у 14:00,
22 сакавіка – у 11:00

“**Ваўкі і авечкі**” 12+ (п’еса ў 2-х дзеях), Аляксандр Астроўскі

21 сакавіка – у 19:00

“**Старэйшы сын**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксандр Вампілаў*

22 сакавіка – у 18:00

**ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ТЭАТРА**

“**Плачу наперад**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*

27 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 10 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / +1 | | +1 / +2 | | +1 / +2 | | +2 / +4 | |
| | 742 | ↗ 4 | 742 | ↖ 4 | 737 | ↗ 6 | 733 | ↖ 7 |
| Вільня | -1 / +4 | | 0 / +3 | | 0 / +4 | | +2 / +7 | |
| | 744 | ↑ 4 | 747 | ↑ 4 | 743 | ↑ 4 | 736 | ↖ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 7.38
Захад 19.07
Даўжыня дня 11.29

Усход 3.42
Захад 11.57
Квадра 4

| | Віцебск | Гродна | Мінск | Магілёў | Брэст | Гомель |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ноччу | -4 | 0 | +1 | -4 | -1 | -3 |
| Днём | +1 | +3 | +2 | +1 | +3 | 0 |
| Ціск | 745 | 747 | 742 | 743 | 746 | 746 |
| Вецер | ↑ 3 | ← 4 | ↖ 4 | ↑ 5 | ← 1 | ↖ 2 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -21,5 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +14,7 °C у 1961 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,7 мм у 1999 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **У Вілейцы жыве цікавы чалавек Міхаіл Місюль. Ён працуе кіроўцам, а ў вольны час стварае ўласны музей старых рэчаў. Пра тое, што цікавага ёсць у музеі Міхаіла, чытайце ў наступным нумары.**

## Хай вясновыя дзянькі не перашкодзяць вучыцца

Усё бліжэй розыгрыш планшэта для ўдзельнікаў акцыі "Дзясятачка" і час паходу ў піцэрыю для самага актыўнага класа.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№10)

1. Імя, прозвішча__________
2. Дата нараджэння __________
3. Клас
   Школа__________
4. Населены пункт__________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака __________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі __________
9. Імя, імя па бацьку __________
10. Прозвішча настаўніка __________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка__________





## Сустракайце вясну з "Рэгіянальнай газетай"! Падпішыцеся!

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№10 (1193) 9.03.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 340. Падпісана ў друк у 9.00 6.03.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што вы будзеце рабіць у вялікія выхадныя?



**Марыя Шабанец, менеджар па продажах, Маладзечна:**
– Працаваць буду. Я працую з міжнароднай кампаніяй, склад якой знаходзіцца ў Чэхіі. А там няма такіх вялікіх выхадных.



**Анатоль Чабатар, кіроўца, Вілейка:**
– Вядома што: жанчын віншаваць.



**Вікторыя Іванец, работніца культуры, Вілейка:**
– Нічога асаблівага. Будзем разам з маім маладым чалавекам.



**Людміла Чаховіч, Вілейка, прадавец:**
– Буду працаваць. Я прадавец. А магазіны патрэбныя людзям заўсёды.



**Сяргей Смірноў, электразваршчык, Маладзечна:**
– Дамовіліся з сябрам з'ездзіць на рыбалку. Пакуль лёд трымаецца, трэба скарыстацца гэтай магчымасцю.



**Таццяна Крайко, повар-прадавец, Вілейка:**
– А што можна рабіць у выхадныя? Адпачываць буду.



**Тамара Кеда, выхавальніца, Маладзечна:**
– Буду віншаваць з вясновым святам сваіх родных і сяброў. І сама, спадзяюся, буду прымаць віншаванні.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**